# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№17 (261)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЦІ ЁСЦЬ У БЕЛАРУСАЎ ШАНЕЦ ПЕРАМАГЧЫ?

**Адразу супакою песімістаў і адкажу: "Так, ёсць". І нават стапрацэнтны. Выпадак, што цяперашні прэзідэнт і далей будзе кіраваць Беларуссю, немагчымы. Бо супраць яго паўстала ўся краіна. Пытанне яго сыходу – гэта пытанне часу.**

У нашым сельскім, пераважна пенсіянерскім, рэгіёне тое невідавочна. А вось у вялікіх гарадах, асабліва ў Мінску, тое зразумела як белы дзень. У чалавека, які 26 гадоў кіраваў краінай, падтрымкі ў краіне не засталося.

Не, яго пакуль падтрымліваюць пенсіянеры-"абынебыловайны", якія акрамя сваёй зомбі-скрынкі нічога не бачаць. Яго падтрымлівае прыкормленая вертыкаль, сілавікі, частка міліцыі. Ім проста некуды падзецца. Яны не могуць моўчкі сысці з пасады. А вось абсалютная большасць інтэлігенцыі адназначна выказала сваю пазіцыю. І сярод іх тэатралы, дактары, IT-шнікі.

І кожны дзень мы становімся сведкамі, як нейкая важная персона адкрыта заяўляе: "Гэтаму рэжыму я больш не служу"." Сярод такіх людзей шмат паслоў у іншых краінах, юрыстаў, сусветна вядомых спартоўцаў. У гэтым спісе няма толькі дырэктароў прадпрыемстваў, школ, арганізацый – тых, хто пры прызначэнні праходзіў праз ідэалагічнае сіта, а потым арганізаўваў "выбары".

Ім цяпер вельмі туга. Яны разумеюць сваю прамашку, якую зрабілі на апошніх выбарах і наогул у жыцці. Але рашыцца на адкрыты сыход не могуць – баяцца.

Але калі яны бачаць, як штонядзелю ў Мінску сотні тысяч людзей выходзяць на пратэст, ім становіцца блага. Гэты пратэст бясконцы. А вось сілы ў "сілавікоў" на зыходзе. Нельга рабіць зло і станавіцца пры тым мацнейшым. Зло разбурае.

Сёння яно разбурае краіну. Пачаліся зніжэнні заробкаў. Не за гарамі магчымыя затрымкі ў выплаце заробкаў і пенсій.

Толькі сляпы не можа заўважыць, што рэжым канае.

Жыве Беларусь!

**Г.Станкевіч**

COVID-19

## ЦІ ВАРТА ЕСЬЦІ ШМАТ СЫРУ?

**Аляксандар Лукашэнка назваў "добрым антыковідным лекам" сыр.**

Ён расказаў журналістам дзяржаўных СМІ, што, нягледзячы на запасы сыру ў краіне, ён ня будзе рызыкаваць здароўем сваіх сталых прыхільнікаў і збіраць іх на мітынг у сваю падтрымку, які меў прайсьці ў нядзелю паралельна з чарговай акцыяй пратэсту. Пра тое, ці сапраўды сытуацыя з каранавірусам у Беларусі кантралюецца, як сьцьвярджае Аляксандар Лукашэнка, «Настоящее время» спытала ў лекара-рэаніматоляга зь Віцебску Расьціслава Савіцкага.

***— Якое цяпер становішча ў сувязі з распаўсюдам каранавірусу? З чым сутыкаецеся канкрэтна вы і што кажуць вашыя калегі?***

— Сытуацыя цяпер сапраўды даволі цяжкая. Шмат пацыентаў паступаюць у стацыянары, больш пацыентаў у сталым веку — гэта ўзрост 50 плюс. Пры гэтым ёсьць і цяжкія выпадкі, ёсьць і [выпадкі] сярэдняй цяжкасьці. Плынь прыблізна параўнальная зь веснавой сытуацыяй у Беларусі, у прыватнасьці, у Віцебску. У нас перапрафілёецца ўжо даволі шмат стацыянараў для прыёму менавіта ковідных пацыентаў.

***— Ці хапае лекаў?***

— Што да лекаў, вельмі забаўная сытуацыя. Ёсьць імпартныя лекі, неабходныя непасрэдна для лекаваньня, іх, на жаль, не хапае. А тыя, якія беларускай вытворчасьці, — яны ёсьць у вялікім і шырокім доступе, і ў гэтым пляне мы ня маем патрэбы. Але заўсёды ёсьць нейкія недахопы, якія, на жаль, мы ніяк не кампэнсуем.

***— Лукашэнка кажа, што сытуацыя ў краіне кантралюецца. Ці згодныя вы зь ім?***

— Я ня ўпэўнены, што гэта слушнае выказваньне. Той шпіталь, дзе я цяпер працую, ёсьць цэнтрам разьмеркаваньня ковідных пацыентаў у горадзе Віцебску, Віцебскім раёне і Віцебскай вобласьці. Да нас паступаюць пацыенты з усёй вобласьці, мы іх разьмяркоўваем у іншых стацыянарах залежна ад ступені цяжкасьці, ад неабходнага лячэньня і гэтак далей. Ці сытуацыя

***(працяг на стар. 2)***



****

*У вусьцішы агеньчык ледзь ліпіць,*
*патухне – зноў усхопіцца*
*старанна.*
*Краіна непакорная ня сьпіць --*
*ня гояцца, крывавяць яе раны.*

*Каля агню сагрэюся, прысну,*
*ды сон прагоніць*
*яблык палахлівы –*
*ў краіне, дзе стралялі ў цішыню*
*і кінулі за краты справядлівасьць.*

*Раса, як кроў на роспачнай траве,*
*дыміцца пад нагамі, як жывая.*
*Пакуль аблокі сонца разарве*
*зямля ў сабе бязьмежны боль*
*трымае.*

*Час наступіў няскораных, калі*
*іх сотні выйшлі –*
*кожны шляхам зорным –*
*ў краіне, што да плахі прывялі,*
*дзе расстралялі*
*самых непакорных.*

*Ды ўзыйдзе сонца:*
*"Беларусь жыве!" –*
*На белым сьнезе –*
*клёнавая чырвань.*
*Змагаецца з ёй вецер цэлы век,*
*а ліст чырвоны з рук ніяк ня вырве.*

*Каб зноў ляцеў увысь*
*наш вольны сьпеў,*
*ня скраў каб злыдзень*
*сьветлы дзень ніколі,*
*мы мужнасьць пераnялі*
*ў нашых дрэў,*
*мы сьцяг трымаем –*
*сымбаль нашай волі.*

**Г. Станкевіч**

ВІЗІТ

## "УНІКАЛЬНАСЦЬ НАШАГА ЧАСУ"

**16-га кастрычніка Бешанковічы наведаў старшыня віцебскага абласнога савета дэпутатаў Уладзімір Цярэнцьеў.**

Калі хтосьці запярэчыць і скажа, што Цярэнцьева "абіраў" ў дэпутацкі склад народ, можна не сумнявацца, што і тыя "выбары" праводзіліся абсалютна стэрыльна — каб ніякая шэрая мышка ў народныя дэпутаты не праскочыла.

Як піша "Зара", спадар Цярэнцьеў наведаў Бешанковічы "ў пошуках адказаў на актуальныя ў цяперашні час пытанні."

І першымі тыя адказы мусілі даць вучні СШ №1 Бешанковічаў, якім госці запрапанавалі пагутарыць не як звычайна "на збітыя тэмы, а пра ўнікальнасць нашага часу."

Зара піша: "У. У. Цярэнцьеў не мог абысці тэму масавых беспарадкаў на вуліцах сталіцы, удзельнікамі якіх, на жаль, часта становяцца маладыя хлопцы і дзяўчаты. Яны лёгка паддаюцца гучным заклікам і накіроўваюцца на плошчы, толкам не ўсведамляючы сапраўдных матываў усяго таго, што адбываецца, і не разумеючы сутнасць сваіх дзеянняў і эмоцый. У нашай краіне ёсць шмат разнастайных праектаў, акцый і цікавых мерапрыемстваў, куды можна накіраваць усю сваю энергію і праявіць свае здольнасці…"

Спадар Цярэнцьеў не мог не ведаць пра тое, што галасы выбарцаў на выбарах 9-га жніўня не лічыліся. Маладыя ж, як ніхто іншы, вельмі дакладна адчуваюць любы фальш. А таму іхнія эмоцыі зараз абсалютна лагічна накіраваны ў правільным кірунку. І аніякімі заклікамі аніякіх чыноўнікаў іх не пераканаеш. ПАТРЭБНЫЯ НОВЫЯ СУМЛЕННЫЯ ВЫБАРЫ!

Замест таго, каб абмеркаваць неабходнасць новых выбараў, "Цярэнцьеў абмеркаваў са старшынямі сельскіх выканаўчых камітэтаў унясенні паправак у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, у Закон аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, аб важнасці ўдзелу ў дадзеных працэсах радавых грамадзян краіны."

Думаю, што голас радавых грамадзян краіны ім зусім не патрэбны. Ні мой, ні ваш. Як не лічылі яны нашыя галасы на выбарах 9-га жніўня.

Пра не разуменне чыноўнікамі працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, сведчаць тыя пытанні, што абмяркоўваліся ў РВК. Адно з іх: "Ці варта развіваць у краіне шматпартыйную сістэму?"

Мне з гэтага стала зразумела адно: цяперашняя аджыўшая ўлада збіраецца даваць адмашку на ўтварэнне партый! Яны не ведаюць, што сапраўдныя народныя партыі ствараюцца знізу, а не з верху. А тыя партыі, якія даўно ёсць у Беларусі, фактычна забараняюцца, а іхнія сябры пераследуюцца. Нагадаю, што У Беларусі палітычныя партыі не рэгістраваліся з 2000 году. Міністэрства юстыцыі ўсім адмаўляла, у асноўным па фармальных прычынах.

Акрамя адной. Бо яна нібыта і не партыя. Гэта нешта накшталт такое пад прыгожай назвай "Белая Русь". І ў Бешанковіцкім раёне гэта "партыя" налічвае "больш за 370 чалавек". На фотаздымку, які размясціла "Зара" з канферэнцыі гэтай "партыі", бачна, што яены касцяк складаюць праўладныя чыноўнікі і настаўнікі. На фотаздымку, што апублікавала "Зара" на сваім сайце, іх каля 30 чалавек. Як для справаздачна-выбарчай канферэнцыі, то такі здымак вельмі дрэнны, бо падкрэслівае недастатковую колькасць удзельнікаў канферэнцыі, сведчыць аб яе нелігітымнасці. Але, мусіць, лепшага здымка нельга было зрабіць. Зала, мусіць, і сапраўды была паўпустая.

"Зара" піша, што "ідэалагічным стрыжнем «Белай Русі» была і застаецца падтрымка палітыкі Прэзідэнта Беларусі". Цяпер зразумела, чаму гэта "нібыта партыя" прыцягвае такую увагу з боку высокага абласнога чыноўніка.

Бачна, што не за гарамі той час, калі "Белая Русь" пераўтворыцца ў праўладную партыю, якой пасля зганай рэформы Канстытуцыі будзе адводзіцца важная роля. Таму і новага старшыню гэтай будучай партыі падабралі адпаведнага. Ёй стала намесніца старшыні РВК пенсіянерка (або без пяці хвілін пенсіянерка) Тацццяна Ждановіч.

Мусіць, і прыязджаў Цярэнцьеў у Бешанковічы адмыслова на гэтую канферэнцыю. Усе астатнія сустрэчы арганізоўваліся яму дзеля галачкі, каб заняць час і стварыць уражанне насычанага працоўнага дня.

**Г.Станкевіч**

COVID-19

*(пачатак на стар. №1)* кантралюецца? Дакладна — не, бо не хапае месцаў, даводзіцца перапрафіляваць шпіталі, якія не былі прызначаныя для гэтага. Часам не стае кіслароду, нас ставяць у жорсткія рамкі, нам даводзіцца эканоміць нават кісларод для пацыентаў, што, з аднаго боку, мо і слушна, але, зь іншага боку, крыху негуманна.

***— Лукашэнка кажа, што ўсплёск эпідэміі каранавірусу ў Беларусі справакавалі пратэставыя акцыі ў Менску. Кажа, што ў Менску найбольшая колькасьць, што, пэўна, даволі зразумела, гэта сталіца, там вялікая канцэнтрацыя людзей. Але тым не менш — ці вы бачыце сувязь паміж захварэлымі і пратэстамі?***

— Гэта крыху парадаксальна. У Віцебску пратэставага руху было няшмат. Так, былі нядзельныя маршы, адзін раз на тыдзень выходзілі, можа, тысяча, можа, дзьве тысячы чалавек. Але пры гэтым хворнасьць у Віцебску прыкладна такая ж, якая была і ўвесну. Зьвязваць цяпер хворнасьць з пратэстамі як мінімум неразумна. Мы бачылі веснавую карціну і разумеем, што яна тая ж самая. Хутчэй за ўсё, гэта проста зьвязана з сэзонным абвастрэньнем. І ніяк не зьвязана з пратэставым рухам. Пагатоў вірус у нас ня так моцна распаўсюджваецца на адкрытым паветры, як у памяшканьнях.

***— Лекары нядаўна запісалі зварот, дзе просяць адпусьціць затрыманых паводле палітычных матываў і падчас мірных акцыяў пратэсту, а таксама спыніць усякі перасьлед альтэрнатыўных дзяржаўнай думцы выказваньняў. Вы, я так разумею, у ліку тых, хто непасрэдна зьвярнуўся да ўлады і грамадзтва. Наколькі цяпер палітызаваная сытуацыя ў мэдычнай супольнасьці?***

— Як і, напэўна, у іншых сфэрах, у мэдычнай супольнасьці ёсьць тыя, хто падтрымлівае цяперашнюю ўладу, ёсьць тыя, хто супраць яе, і ёсьць тыя, хто проста ня хоча пераходзіць на нейкі бок і спрабуе адмаўчацца. Сярод не задаволеных уладай даволі шмат кваліфікаваных спэцыялістаў, якія будуцьісьці да канца ў сваіх перакананьнях, у сваіх думках. І я ўпэўнены, што мэдычная супольнасьць Беларусі даволі салідарная сама па сабе і будзе да канца стаяць у сваіх патрабаваньнях да дзейнай улады.

***— Што канкрэтна вас не задавальняе, магчыма, абражае ў словах Аляксандра Лукашэнкі?***

— Калі быць шчырым, то мэдычная супольнасьць была даведзена да мяжы менавіта ўвесну — у сытуацыі з пандэміяй, калі адкрыта не прызнавалася існаваньне самой пандэміі, калі казалася, што няма ніякай хваробы ў прынцыпе, калі статыстыка проста адкрыта фальсыфікавалася на нашых вачах, і гэта была нахабная хлусьня. Паміралі людзі — і гэта абсалютна не ішло ў статыстыку. Увогуле, гэта выклікала вялікае віраваньне ў колах мэдыкаў. І цяпер шмат хто гэтым не задаволены.

Плюс да ўсяго стаўленьне дзейнай улады да мэдычнай супольнасьці. Стаўленьне — нібыта мы камусьці штосьці вінныя. Мы лекары, мы абавязаныя, мы мусім. Мы вам дамо нейкую надбаўку — як костку кінуць у твар — можаце супакоіцца, што нейкія грошыкі мы далі, а вы рабіце ўсё, што хочаце, але пры гэтым рабіце нейкімі абмежаванымі сродкамі. І потым на нас жа будуць вешаць усіх сабак, што мы такія кепскія, мы не далячылі, мы не дагледзелі і гэтак далей. Як, у прынцыпе, цяпер і робіцца. Цяпер камісіі езьдзяць па шпіталях, правяраюць, як мы лекуем. І пры гэтым на нас жа сварацца за нашае лячэньне, якое яны ж нам рэкамэндуюць. То бок мы рэкамэндуем паводле іхнага лячэньня, яны прыяжджаюць і нас жа за гэта выгаворваюць.

***— Лукашэнка, напрыклад, рэкамэндуе лекавацца сырам. Кажа, што гэта выдатны антыковідні сродак.***

— Значыць, хай яму гэты сыр уводзяць так, як пажадаюць.

**Радыё Свабода**

ЗВАРОТ

# УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ — СІЛАВІКАМ

**На сваёй старонцы ў фэйсбуку экс-кандыдат у прэзідэнты, паэт і пісьменнік Уладзімір Някляеў размясціў адкрыты ліст камандзіру ГУБАЗіК палкоўніку Мікалаю Карпянкову.**

"Гэты ліст я мог бы напісаць усім кіраўнікам сілавых структур і іх падраздзяленняў (Церцелю, Казакевічу, Балабе ды іншым), якія запалохваюць удзельнікаў мірных пратэстаў выкарыстаннем стралковай зброі. Але паколькі ў нас з вамі дзесяцігадовай даўніны "адносіны", пішу асабіста вам.

Мяне ўразіла ваша выказванне пра гуманнае выкарыстанне зброі. Я паэт, не надта разбіраюся ў вайсковай тэрміналогіі, таму спытаў знаёмага вайскоўца (таксама, між іншым, палкоўніка), што б гэта магло значыць? Ён адказаў, што з ягонага гледзішча толькі адно: забіць чалавека першым стрэлам. Каб пасля яго не дабіваць, каб ён не мучаўся.

19 снежня 2010 года вы, як камандзір міліцэйскага спецназу "Алмаз", атрымалі загад "нейтралізаваць" кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Някляева, не даць магчымасці яму і ягоным паплечнікам выйсці на Плошчу. Пасля вашага нападу, вынікам якога стала чэрапна-мазгавая траўма, я апынуўся ў палаце рэанімацыі шпіталю хуткай дапамогі. Вы не забілі мяне "першым стрэлам", я не апынуўся адразу ў моргу толькі таму, што перад самым выхадам на вуліцу Калектарную, дзе адбыўся напад, жонка надзела мне на галаву скураную, тоўстую з падкладам шапку.

Я падаваў на вас у суд за спробу забойства, але суд прызнаў гэтую спробу апраўданай. Нават аказалася, што вы не білі нас, а баранілі.

Я не чакаў ад суда нічога іншага. Проста мне хацелася пачуць у судзе адказ на пытанне: чаму неўзабаве пасля нападу Лукашэнка зняў вас з пасады камандзіра спецназу "Алмаз"? І чаму не прысвоіў, як чакалася, званне генерала?

У 2010 годзе, калі надмірнымі людзьмі, якія пратэставалі супраць фальсіфікацый на прэзідэнцкіх "выбарах", была ўчыненая крывавая расправа на Плошчы Незалежнасці, рэжым, якому вы служыце, апраўдваў гэты тым, што нібыта сярод пратэстоўцаў былі бандыты, тэрарысты — да таго ж узброеныя. І тады ж правакацыя, прыдуманая спецслужбамі, была выдадзеная за спробу штурму Дома ўраду. Ніводнага тэрарыста і ніякай зброі пасля не знайшлося, але белы снег на Плошчы стаў чырвоным.

Вось і сёння зноў чуваць: правакацыі, бандыты, тэрарысты. І яшчэ чуваць: "Мы будзем страляць!" Вы спрабуеце спыніць мірныя пратэсты, пагражаючы крывёй, не разумеючы, што спыніць нічога ўжо нельга. Рэвалюцыя адбылася ў свядомасці – і гэта незваротна. Прыйшоў новы час з новымі людзьмі – і стары час мусіць саступіць яму месца. Непазбежна. Пытанне толькі ў тым: як ён сыйдзе? Колькі народу яшчэ пакалечаць, колькі чалавечых лёсаў паламае, колькі жыццяў забярэ з сабой?

Вы толькі падумайце, пра што вы кажаце! Пра новыя Курапаты! Пра расстрэл народа! Яго расстрэльвалі энкэвэдысты, расстрэльвалі фашысты, а цяпер — вы?!.

Калі я іду ў калонах людзей, адухоўленых, узвышаных ідэяй свабоды, марай пра новую Беларусь, я бачу, што людзей гэтых ніхто і нічым ужо не можа застрашыць. Я адчуваю іх гатоўнасць ахвяраваць сабой дзеля новай, свабоднай Беларусі – і такую ж гатоўнасць поплеч з імі адчуваю ў сабе. Таму як выходзіў, гэтак і буду я выходзіць на мірныя пратэсты супраць падману народа на сёлетніх прэзідэнцкіх "выбарах", супраць здзеку над народам, нягледзячы на тое, што вы можаце мяне "нейтралізаваць" — і нарэшце стаць генералам.

**"Новы час"**

КУЛЬТУРА

# "СЯДЗІБЫ ВІЦЕБШЧЫНЫ"

**Кнігу для тых, хто цікавіцца культурна-гістарычнай спадчынай Беларусі, прадставіла дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» Вольга Ваніна. Гэта "Сядзібы Віцебшчыны" Мікалая Півавара. Аўтар працаваў над кнігай больш за 10 гадоў і сабраў мноства малавядомых, але вельмі цікавых фактаў.**

Кожная сядзіба — гэта своеасаблівы гістарычны зрэз, які дае звесткі пра гісторыю нашай краіны, лічыць Вольга Ваніна. Усе ведаюць такіх гістарычных асоб, як Ефрасіння Полацкая, Усяслаў Чарадзей, але ёсць шмат малавядомых «залаціначак» з нашай гісторыі, што рассеяны па ўсёй краіне.

І раскрываюцца яны менавіта праз гісторыю сядзіб. Напрыклад, у маёнтку Астроўна Бешанковіцкага раёна нарадзіўся будучы канцлер ВКЛ Леў Сапега. У Відзах Лаўчынскіх Браслаўскага раёна жыў і пахаваны генерал Ваўжэцкі, які ўзначаліў паўстанне 1794 года Тадэвуша Касцюшкі пасля ранення і палону апошняга. У сядзібе вёскі Папоўка Талачынскага раёна была адкрыта першая беларуская школа з роднай моваю навучання, дзе выкладаў Канстанцін Міцкевіч, які стаў пазней народным паэтам Беларусі — Якубам Коласам. З такіх маленькіх фактаў складаецца жывая гісторыя краіны, падкрэсліла Вольга Ваніна. Яе можна адкрываць усё жыццё, і, калі такіх месцаў многа, яны ствараюць грунтоўную сістэму ведаў, базіс для нацыі.

І сапраўды, на працягу сотняў гадоў шляхецкія сядзібы былі эканамічнымі, адміністрацыйнымі, сацыяльнымі, культурнымі і духоўнымі цэнтрамі ў сваіх рэгіёнах. Дзякуючы іх гаспадарам на беларускіх землях з'яўляліся агратэхнічныя навінкі, новыя прыёмы севазвароту, селекцыі свойскіх жывёл і сельскагаспадарчых культур. Пры сядзібах часта былі бібліятэкі, архівы, музеі, друкарні, аранжарэі. У маёнтках рабіліся навуковыя адкрыцці, ствараліся і захоўваліся аб'екты матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Вялікая колькасць сядзіб звязана з жыццём і дзейнасцю славутых асоб. Кніга, прысвечаная сядзібам Віцебшчыны, складаецца з частак, што адпавядаюць раёнам. Створана карта-схема размяшчэння сядзіб у кожным раёне, апісаны іх стан. Многія ў занядбаным становішчы, толькі адзінкі захаваліся, адзначыў з болем яе аўтар Мікалай Півавар. Акрамя пісьменніцкай дзейнасці, ён вядомы на Віцебшчыне экскурсавод, а таксама выкладчык у Лужаснянскім кадэцкім вучылішчы. Не магла не пацікавіцца ў аўтара, якія сядзібы ён раіць наведаць найперш, калі збіраешся ў падарожжа па Віцебшчыне. У якасці адказу Мікалай Васільевіч даслаў цэлы спіс з 45 назвамі з картай (наогул у кнізе апісваецца амаль 300). Асабліва адзначыў былую сядзібу Дубашынскіх у вёсцы Барыскавічы і былую сядзібу Молі ў вёсцы Залессе Глыбоцкага раёна. Аўтар таксама параіў не абмінуць пры магчымасці былую сядзібу Свяцкіх у вёсцы Беліца Сенненскага раёна.

Мікалай Півавар, акрамя таго, прывёў некалькі цікавых фактаў, што сведчаць пра значнасць гістарычнай ролі беларускіх сядзіб. Так, у маёнку Цяпіна выдадзена Біблія. У палацы Тызенгаўзаў у Паставах у XIX стагоддзі была багатая карцінная галерэя, створаны арніталагічны музей. У Каралёва — першая на Беларусі метэаралагічная станцыя Бяльніцкага-Бірулі. Батанічны сад у Вялікіх Лётцах створаны Уладзімірам Адамавым. У маёнтку Кахачын жыў заснавальнік таварыства філаматаў і філарэтаў Тамаш Зан, у Палевачах — бацька беларускага прафесійнага тэатра Ігнат Буйніцкі, у Мурагах — Ян Баршчэўскі. У маёнтку Мяніцкіх Селігоры на Лепельшчыне стварыў сваю рукапісную «Беларускую хрэстаматыю» Б. Эпімах-Шыпіла. У Крынках Лёзненскага раёна нарадзіліся і пайшлі ў вялікі свет сем генералаў, у тым ліку апошні генерал-фельдмаршал Расійскай імперыі Іосіф Гурка.

Жыццё дваранскіх сядзіб у цэнтральнай і ўсходняй Віцебшчыне спынілася ў 1917 годзе. Большасць была разрабавана, разбурана, рэшта нацыяналізавана. У Спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі на 2014 год знаходзіцца 173 сядзібы. У досыць добрым стане — каля 50 аб'ектаў. У некаторых з іх размешчаны ўстановы, і стан іх не выклікае заклапочанасці: Межава (царква), Юрцава (шпіталь), Бешанковічы (музычная школа), Двор-Нізгалава (бібліятэка), (бібліятэкі ў Двор-Нізгалаве даўно ўжо няма. http://beshankovichy.by), Мазалава (царква ў некалькіх пакоях), Ідолта (бібліятэка). У Паставах і на Шаркаўшчыне сядзіба стала шпіталем, у Быкаўшчыне, Бяздзедавічах, Расонах — домам дзіцячай творчасці, у Гарадцы — канторай КУУСП.

Па словах Мікалая Півавара, падчас працы над томам сабрана інфармацыя пра больш чым 1500 сядзіб на Віцебшчыне, але многія з іх практычна не захаваліся да нашага часу. Таму трэба беражліва ставіцца да таго, што існуе ў наш час, і захоўваць гэтую спадчыну для будучыні.

**СБ**

РАСІЯ

# МАСКВА РАЗУМЕЕ, ШТО ТРЭБА МЯНЯЦЬ ЛУКАШЭНКУ

**Галоўны рэдактар «Рэха Масквы», Аляксей Венедыктаў, які агалічаць чалавекам інфармаваным і набліжаным да Крамля, выказаўся аб сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з палітвязнямі, а таксама паразважаў аб няпростым становішчы, у якім апынуўся кіраўнік Беларусі.**




— Так, гэта быў будынак КДБ, палітвязняў прывезлі з розных СІЗА, — распавёў Венедыктаў у праграме «Будзем назіраць». — Ім не паведамлялі, куды іх вязуць. На нейкую сустрэчу. Ім не паведамлялі прозвішча Лукашэнкі, і для іх прыход туды Аляксандра Лукашэнкі было нечаканасцю. Уласна, у тым ліку на гэта быў, вядома, разлік.

Я яшчэ раз паўтару для тых, хто прапусціў, я лічыў і лічу, што Лукашэнка заціснуты паміж трымасілямі. Якія даягоставіцца негатыўна. Гэта пратэст, гэта Масква і гэта Брусэль. ЕС. І паколькі ён бачыць у гэтым практычна адзіны фронт, нават выдатна разумеючы, што ёсць ўнутраныя супярэчнасці паміж Брусэлем і Масквой, паміж Масквой і пратэстам. Паміж пратэстам і Бруселем. Тым не менш ён разумее, што яму трэба адбівацца па крузе. Таму яго, на мой погляд, задача была выскачыць. Ведаеце, як змылак заціскаецца — мыла так уверх вылятае. Таму ён распачаў такі я б сказаў неардынарны крок.

Учора журналіст Сяргей Пархоменка казаў, што апошняе, што ён памятаў — сустрэча ў турме Мандэлы, які адседзеў 25 гадоў, і Пітэра Бота, кіраўніка. Яны там пілі гарбату і абмяркоўвалі, што будзе потым з Паўднёвай Афрыкай. Але я думаю, што задача Лукашэнка — раскалоць пратэст у першую чаргу. Аслабіць націск пратэсту. Таму што пратэст — гэта шырокая кааліцыя. Нават калі яна нефармальная. Там ёсць людзі, якія выходзяць з рознымі поглядамі, рознымі задачамі. Ён гэта добра разумее.

І ён спрабуе лідэраў пратэсту як бы супрацьпаставіць адных іншым. І плюс да гэтага Масква, якая разумее, што трэба мяняць Лукашэнку. Маскве трэба мяняць Лукашэнку на кагосьці больш цяпер зручнага і цывілізаванага, скажам так. Значыць трэба туды штосьці кінуць, а таксама паказаць Еўропе, што мы тут вам не капусту лапцем сёрбаем. Людзей выпусцілі двух, перавялі на хатні арышт. І яшчэ выпусцім і гэтак далей...

Гэта значыць на самай справе... Ва ўсякім разе, людзі, якія пераказваюць гэтую сустрэчу мне з розных штабоў, з розных сіл — яны кажуць, што Лукашэнка быў упэўнены ў сабе. Спакойны. Прыязны. Шмат жартаваў. Ён вырашаў задачу. Сваю. Не іх. Вырашыў ён яе? Не, не вырашыў. Таму што калі пайшлі каментары на наступны дзень, што гэта яго слабасць — ён завагаўся пад вуліцай. Яго прымусілі гэта зрабіць. І ён гэта кампенсаваў жорсткасцю на вуліцы, параўнальнай з жорсткасцю 9-11 жніўня. Ён вярнуўся да таго ўзроўню жорсткасці. Збіццём у першую чаргу, пагрозамі страляць баявымі патронамі. «Гуманістычна», як казаў яго намеснік міністра ўнутраных спраў.

Гэта значыць, Лукашэнка як бы кідаецца паміж во сваім вобразам рашучага, суровага, у сваім праве кіраўніка дзяржавы — і чалавекам, які разумее, што ён заціснуты. Ён жа разумее, ён жа ня дурны. Таму будзем, напэўна, на працягу нейкага часу бачыць яшчэ некаторыя яго руху і спробы з аднаго боку, паўтараю, дамовіцца з часткай кіраўнікоў пратэсту.

**«Новы Час»**

ЭЎРАЗВЯЗ

# МЫ АКАЖАМ «ЗНАЧНУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ ПАДТРЫМКУ»

**ЕС працягвае падтрымліваць беларусаў у іх імкненні да новых, сумленных выбарах і дэмакратыі. Пра гэта 16 кастрычніка на слуханнях у Еўрапарламенце заявіў кіраўнік дэпартамента Усходняга суседства ў Еўракамісіі Лоўрэнс Мэрэд.**

Мэрэд сказаў: «Важна паказаць народу Беларусі, якія магчымасці існуюць у тым, што тычыцца супрацоўніцтва з ЕС пры пераходзе да дэмакратычнай Беларусі. І мы падтрымліваем такі пераход », паведамляе БелаПАН, перадае naviny.by.

Таксама Мэрэд удакладніў, што ў выпадку перамогі беларускага народу — і пераходу да дэмакратыі — у Беларусі «будзе магчымая значная эканамічная падтрымка» краіны, у тым ліку новае пагадненне, якое прадугледжвае доступ да фінансавання Міжнароднага валютнага фонду і фінансавай дапамогі з боку ЕС. «Мы ўсе гатовы прапанаваць такую падтрымку <...> Наш абсалютны прыярытэт — падтрымліваць дэмакратызацыю Беларусі».

Мэрэд запэўніў, што цяпер у ЕС абмяркоўваецца, як зрабіць так, каб ужо існуючая дапамога была накіравана на падтрымку грамадзянскай супольнасці, моладзі, незалежных СМІ, а не дзяржаўных структур.

«Мы аказваем дапамогу ахвярам рэпрэсій. Сёння раніцай мы пачулі зусім жахлівыя гісторыі катаванняў і гвалту ў Беларусі. Мы аказваем медыцынскую, псіхалагічную, юрыдычную дапамогу пацярпелым ад гвалту. Мы вельмі ўключаны ў дыялог, каб зразумець, як лепш арганізоўваць такую дапамогу, улічваючы складаныя абставіны ў краіне <...> Я думаю, што мы ніколі не бачылі больш яркага прыкладу таго, як важна мець магчымасць чуць незалежныя галасы і бачыць фота і відэа таго, што адбываецца, таго гвалту, якое закранула тысячы людзей», - сказаў на заканчэнне Мэрэд .

**kyky.org**

ПОГЛЯД

# АД МАРШАЎ ПРАТЭСТУ ДА СТРАЙКАЎ, АД СТРАЙКАЎ — ДА РЭАЛЬНЫХ ПЕРАМЕН

**Напярэдадні ўсебеларускага страйку пачуў ад адной замежнай карэспандэнткі: «Людзі мусяць бачыць нейкі вынік сваіх высілкаў, яны ня могуць хадзіць на маршы проста так бясконца». Ня толькі яна, многія (асабліва за мяжой) сумняваюцца ў плёне таго, што бачаць у відэасюжэтах зь Беларусі. Маўляў, ходзяць і ходзяць — а сэнс? А сэнс і плён — навідавоку.**

Плён маршаў пратэсту — гэта, безумоўна, маштабны страйк, які адбываецца ў Беларусі 26 кастрычніка 2020 году. Прынамсі ў XXI ст. нічога падобнага ў краіне не было. Хтосьці скажа, што для агульнанацыянальнага маштабу ўдзельнікаў мала. Але можна сьмела запярэчыць, што ва ўмовах прававога дэфолту і фактычнага тэрору з боку дзяржавы акцыі 26 кастрычніка — посьпех грамадзянскай супольнасьці.

Важны момант: упершыню ад пачатку пратэстаў за страйк 26 кастрычніка ёсьць адказная асоба (прынамсі, маральна) — Сьвятлана Ціханоўская. Якая перад тым падкрэсьлівала, што яна ня лідэр, а сымбаль пратэстаў. І праўда, на маршах пратэсту ў асноўным гучыць толькі адно імя — Лукашэнкі, і толькі ў адным кантэксьце: «Сыходзь!»

Я ўпэўнены, што без папярэдніх адзінаццаці маршаў у людзей не было б такой рашучасьці страйкаваць. Бо маршы паказваюць і рашучасьць, і салідарнасьць, і маштаб пратэстаў.

А крыху раней мы пабачылі, што ўпершыню за чвэрць стагодзьдзя ляяльныя да Лукашэнкі «бюджэтнікі» ў шэрагу рэгіёнаў адмаўляліся ехаць на праўладны мітынг. Усё таму, што людзі бачаць рашучасьць, і ўсё ад маршаў.

Маршы фактычна вымываюць падмурак піраміды ўлады, якую Лукашэнка разам з зацікаўленымі чыноўнікамі і бізнэсоўцамі выбудоўваў так доўга.

Цяпер відавочна, што людзей, якія хочуць пратэставаць, але не пратэстуюць, спыняе выключна боязь перад рэпрэсіўнай машынай альбо страх страціць даход. У кожным разе ключавое слова тут — «страх».

Выходзіць у асноўным «крэатыўная кляса», якая яшчэ нядаўна жыла ў сваёй паралельнай ад лукашэнкавай рэальнасьці, а залежныя ад дзяржавы (гэта значыць пэрсанальна ад Лукашэнкі) былі больш-менш задаволеныя

*(працяг на стар. 4)*

ФІЯСКА

# ПРИ СИДОРСКОМ ТАКОГО НЕ БЫЛО

**То, что мы видим сегодня, невозможно было представить еще десять лет назад.**

Можно сколь угодно смеяться над героем короткометражки «Гуд бай, Бацька!», ушедшим в запой (от прилива патриотизма) после участия во Всебелорусском народном собрании. Но и в 2001-м, и в 2006-м, и в 2010-м вряд ли была возможна ситуация, которую мы наблюдаем сейчас.

Только представьте: афиши, красно-зеленые полотнища по всему городу, анонсы на ТВ — и тут в решающий момент Александр Лукашенко и Сергей Сидорский, перебивая друг друга, начинают путанно объяснять, почему делегатам собрания не нужно ехать на арендованных автобусах в столицу.

Роман Головченко может и дальше рассказывать о лавинах из желающих пройти маршем по Минску в поддержку действующей власти. Но факт остается фактом: в 2006-м власти не напрягаясь собрали бы и 5000 тысяч делегатов вместо двух с половиной. Просто потому, что не было недостатка в желающих.

Есть еще один характерный момент. За четверть века участников провластных акций приучили к абсолютной несамостоятельности. Попробуйте вспомнить хотя бы один действительно стихийный многотысячный митинг в поддержку Лукашенко, на который бы заблаговременно не отбирали людей и не свозили их к централизованно к месту сбора.

Не исключено, что сейчас для властей звенит важный и тревожный звонок: многие больше не хотят быть массовкой, даже если им пообещать деньги и беляши с водкой без наценки. Возможно, эта часть белорусов так и не выйдет в поддержку перемен, о чем нам говорят записи из госучреждений, но и на митинги «за стабильность» многие из них уже не ходоки.

**Кирилл Иванов**
**"Салідарнасць"**

ПОГЛЯД

*(пачатак на стар. №3)*
сваімі даходамі.

Сёньня маршамі крэатыўная кляса дэманструе сабе і ўсім астатнім грамадзянам, што «кароль» практычна голы. Лукашэнка ня можа ўжо трэці месяц узяць сытуацыю пад кантроль. Разбураецца міт пра ўсёмагутнага волата-чараўніка Лукашэнку, які і дождж можа даць у засуху, і прыдуманых ім саміх ворагаў перамагчы.

26 кастрычніка 2020 году да прахадных некаторых прадпрыемстваў прыгналі аўтазакі, а дзе-ндзе амапаўцы затрымалі рабочых. Беспрэцэдэнтна для часоў кіраваньня Лукашэнкі. Раней падчас страйкаў рэпрэсавалі толькі актывістаў. Цяпер ёсьць сьведчаньні пра пабітых у аўтазаках горадзенскіх рабочых «Азоту». Гэта своеасаблівы момант ісьціны, калі разбурыўся галоўны міт пра Лукашэнку як «абаронцу простага народу».

І гэта ўсё — ад маршаў.

Маршы дэманструюць «простаму народу», што Лукашэнка не такі ўжо і ўсёмагутны. Тое самае бачаць і чыноўнікі, у тым ліку «сілавікі».

У Беларусі працягваецца пазыцыйная вайна. Своеасаблівая раўнавага магчымасьцяў. «Сілавікі» ня могуць задушыць пратэсты, пратэстоўцам не хапае вагі, каб цалкам пазбавіць гвалт сэнсу.

Слова «вайна» я не лічу перабольшаньнем. Адно што ў Беларусі яна не халодная, не гарачая, а «цёплая». Страляюць гумовымі кулямі, якія не забіваюць, але калечаць. Зрэшты, часам і забіваюць.

Такое адчуваньне, што Лукашэнка наўмысна падаграе сытуацыю, бо рэпрэсіі толькі больш злуюць людзей. А значыць, будуць наступныя маршы.

Глябальна працяг пратэстаў азначае, што Лукашэнку ніхто ў сьвеце ня дасьць крэдыту, сюды ня пойдуць інвэстыцыі. «Навошта такі кіраўнік?», — падумаюць на розных узроўнях піраміды ўлады. Ідэя неабходнасьці новага кіраўніка краіны пашырыцца ў галовах. Лягічна падумаць пра асобу, якую лічаць пераможцай на выбарах.

Тое, што Сьвятлана Ціханоўская ўзяла на сябе маральную адказнасьць, заклікаўшы да агульнанацыянальнага страйку, сьведчыць, што яна фактычна пачала сваю другую выбарчую кампанію. Гэтым разам не як намесьніца мужа Сяргея Ціханоўскага, якога Лукашэнка кінуў за краты, а як самастойны палітык.

Магчыма, неўзабаве мы пабачым новыя лёзунгі пратэсту, які набудзе ня толькі мэту «супраць»: «Лукашэнка, сыходзь!», але і лёзунг «за»: «Сьвятлана, прыходзь!»

**Севярын Квяткоўскі**

ДЕЖАВЮ

# КАРДИОЛОГ АЛЕКСАНДР МРОЧЕК — ПРО СТРАНУ

**Известный белорусский кардиолог, заслуженный деятель науки, академик Национальной академии наук Беларуси, доктор медицинских наук, профессор, бывший директор РНПЦ «Кардиология» Александр Мрочек изложил мнение, которое назвал «Дежавю». Приводим его полностью.**



— Что происходит? Наверное, один из часто задаваемых вопросов в последнее время. Такое впечатление, что мы уже встречались с происходящим в своей жизни.

Изучая во время учебы в мединституте историю партии коммунистов, всевозможные марксизмы и материализмы, мы научились клеймить позором американский маккартизм, запреты на профессии, охоту за ведьмами, слезоточивый газ, дубинки, наручники и другие атрибуты «ненашего» общества, столкнулись с тем, что это все вдруг постучалось в двери наших домов.

Есть разные профессии в обществе — «выбирай на вкус». Есть такая профессия — Родину защищать! А есть — Родину насиловать, избивать, калечить, причиняя ей боль и невыносимые страдания, используя спецсредства, которые Родина ей и вручила. Даже боевое оружие дала, которое обещают использовать «гуманно»! Гуманно — это как: покалечить, чтобы остался жив, или наповал, чтобы не мучился?

Но есть профессия, которую когда-то выбрал и я — врач.

Для ее представителей кровь, травма, боль и страдания — руководство к действию, руководство к немедленному оказанию помощи, облегчению состояния. Врач, как говорят, на это «заточен». У врача эта реакция уже, если хотите, на генетическом уровне, воспитанная во врачебных династиях, на примере литературных героев, настоящих образах. Клятва Гиппократа для врача не пустые слова, а сочетание внутренней гуманистической культуры и действий. Не зарплата (размер которой вы хорошо знаете), а совершение данной врачу гуманитарной миссии в обществе — спасение от боли и страдания всех его представителей.

Сегодняшняя острая реакция медиков, направленная против насилия, понятна и объяснима. Препятствовать этой реакции любыми методами — это препятствовать развитию профессии, это фактически уничтожить ее.

Естественно, и в нашей среде не без урода. Самое дно профессионального извращения — доктор Менгеле из Освенцима — классика садистских наклонностей. Для таких «врачей» крики и стоны — небесная музыка, от которой он получает колоссальное удовольствие. Недаром такие экземпляры находят себе место в среде фашизма, бандитизма, морального уродства.

Не хочется верить, но есть кое-что из доморощенного.

Председатель Постоянной комиссии Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь по образованию, науке, культуре и социальному развитию, врач акушер-гинеколог Виктор Лискович заявляет о бойне 9–10 августа и говорит: «... следовало действовать более жестко». Читай: больнее, сильнее, кровавее. Это продукт отечественного производства со знаком «защитник народа».

Ненароком предложит усмирять кричащих грудничков, новорожденных граждан Беларуси каким-либо удушающим приемом или шлепком дубинки. Это врач, которого или разморило в теплом парламенте или генетика не та?!

За протестный выход будущих медиков на улицы уволили ректоров медвузов. Мотив — недостаток патриотизма у студентов. Собственно, о каком патриотизме идет речь? Любви к Родине или к тем, кто ею правит?

Врач делает свое дело — лечит людей и все!

Конечно, через какое-то время, возможно, применив определенные усилия в идеологической работе, можно получить продукт, не замечающий чужих страданий. Может, даже кафедры новые появятся, где будут изучать не лечение травм, кровоподтеков и переломов, а напротив, способов их создания, да чтобы побольнее и покровавее!

Выйдут такие продукты из учебных заведений, как это было когда-то в дружественном нам Китае, с красно-зелеными цитатниками и значками вождя на униформе и будут громить все подряд и не будет места личному мнению, не то что общественному протесту.

Только лечить кто будет?

Дежавю.

К сожалению, история никого ничему не учит!

**news.tut.by**

МІГРАЦЫЯ

# СКОЛЬКО БЕЛОРУСОВ УЕХАЛО ИЗ СТРАНЫ С НАЧАЛА ОСЕНИ

**Несмотря на закрытые из-за коронавируса границы, с начала осени в Польшу выехало около 10 тысяч белорусов, в Украину — 3 тысячи, в Литву и Латвию — не более 500. Такие цифры озвучил начальник Департамента по гражданству и миграции МВД Алексей Бегун, сообщает Sputnik. Если сравнить эти данные с данными Белстата о международной миграции, то получается, что за два неполных месяца года за границу уехало в несколько раз больше человек, чем за весь прошлый год.**

**«Ситуация не критичная и не наносит серьезного ущерба национальной безопасности»**

— Мы мониторим эту ситуацию, отслеживаем передвижение наших граждан через внешний контур, учитываем, что ряд государств предоставили для наших граждан режим определенных преференций, — рассказал Алексей Бегун.

По словам главы департамента, эта ситуация «не критичная и не наносит серьезного ущерба национальной безопасности».

— Страна не чувствует значительной утраты трудовых национальных ресурсов, — констатировал Алексей Бегун.

По его мнению, этот выезд не спровоцирован политическими событиями в стране.

— Может, определенные лица, которые ставили своей целью уже достаточно давно переехать на ПМЖ в другие страны, использовали эту ситуацию для того, чтобы обратиться в компетентные органы Литвы или Польши с ходатайством о предоставлении статуса беженца. И они тем самым очень часто создавали так называемую информационную картинку, чтобы подтвердить, что являются жертвами за свои политические взгляды на территории Республики Беларусь.

Также Алексей Бегун отметил, что миграционные тенденции будут видны по итогам квартала или даже шести месяцев, потому что во многих странах действуют карантинные ограничения, из-за которых может быть сложно вернуться обратно.

**Сколько белорусов раньше уезжало в эти страны**

На сайте Департамента по гражданству и миграции МВД есть данные по выезжающим за первые 9 месяцев года. По этим данным, в Польшу выехали 779 человек, в Литву — 1122 человека, в Латвию и Украину выехавших нет. Эти цифры заметно отличаются от данных за два месяца, озвученных главой Департамента по гражданству и миграции. Но дело в том, что в статистику МВД попадают только трудовые мигранты, которые выехали за границу «при содействии юридических лиц и индивидуальных предпринимателей, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление деятельности, связанной с трудоустройством за пределами Республики Беларусь». Соответственно, те, кто нашел работу самостоятельно или выехал за границу по любой другой причине, в этой статистике не учитываются.

По данным Белстата о количестве выбывших из Беларуси за 2019 год, в Польшу выехал 1751 человек, в Украину — 1890 человек, в Литву — 435 человек, в Латвию — 131 человек. Получается, за два месяца 2020-го в Польшу выехало в пять раз больше человек, чем за весь 2019-й, в Украину — почти в два раза больше, в Литву и Латвию в общей сумме — примерно столько же, сколько за весь прошлый год.

**https://finance.tut.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.10.2020 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.